Bialystok, den 19. Juli 1942
Nr 14

NEUER WEG
Weissruthenische Wochenzeitung für den Bezirk Bialystok

PREIS 20 Pf
Цана 20 фнг.

# НОВАЯ ДАРОГА

Беларуская тыднёвая газэта на Беластоцкую Акругу

Verlag: Sturmverlag G. m. b. H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437 — Bankkonto Stadtsparkasse 700. Anzeigenpreise: z. Zt. ist die Preisliste 1 gültig.

Беласток
19-га ліпеня 1942.

Адрас Рэдакцыі: Sturmverlag G. m. b. H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437—
Банкконто Гарадзкая Каса Ашчаднасьці 700
Цана абвестак паводле лісты цэнаў 1.

## Магчымасьці і сапраўднасьць

На шырыні 500 км. закалыхаўся й затрашчаў савецкі фронт. Праз адну ноч нашы ворагі апынуліся ў палажэньні зусім адваротным да таго, якога яны спадзяваліся. Іх аблічэньні адным ударам расыпаліся ў пыл. Вайсковыя пляны, якія яны снавалі ў часе зімовае сьцюжы, а нават у апошніх тыднях ачышчэньня фронту й падрыхтоўчых баёў на Керчы, каля Харкава і ў Сэвастопалі, гэтыя пляны лічылі яны беспамылковымі. Але вось цяпер усе яны рухнулі ў вабліччы непахіснага, жорсткгаа факту. Абвал зямлі не затрымліваецца толькі на ваенных франтох. Ён разбурвае адначасова дапічэнту картачны дом варожых спадзяваньняў перамогі. Паскольки ў умове з Молатавым была мова аб «другім фронце», дык Чэрчыль пачаў праступніцкім чынам у маральным адношаньні і з усёй вайсковай безадказнасьцю кідаць масы брытанскіх бамбардыроўшчыкаў на нямецкае цывільнае насельніцтва. Гэтым ён хацеў у вачох саветаў паказаць, што вось, маўляў, і ён нешта робіць, уплывае непасрэдна на ход ваенных падзеяў. А фактычна ўвесь англя-амэрыканскі сьвет спадзяваўся, што сапраўднае вырашэньне вайны наступіць на ўсходнім фронце. І гэта было зусім у парадку. Бо ангельскі й амэрыканскі ўдзел у вайне, як заўсёды, так і гэтым разам быў роблены толькі для таго, каб як кажуць, «пусьціць пыл у вочы». І далей ангельцы й амэрыканцы хацелі, захоўваючы сваю кроў, дапяць мэты пры помачы бальшавіцкіх масавых ахвяраў.

Дняўны загад разьбітага савецкага маршала Цімашэнкі, аб якім вядома ня з нейкіх патаемных крыніц, а з перадачы брытанскага агенцтва з Масквы, дае магчымасьць уявіць, што цяпер уся гэтая падстава варожых ваенных плянаў разбурана. У гэтым загадзе гаворыцца, што трэба за ўсялякую цану ўнікаць замкненьня, што людзкі матарыял важней, чым страта тэрыторыі, што камандзіры войск не павінны безаглядна кідаць усё, каб толькі ўтрымаць пазыцыі. Гэта азначае правал усяе дасюлешняе савецкае тактыкі, якая трымалася таго, каб кожную пядзь зямлі бараніць бяз увагі на страты ў людзях і матарыяле.

Калі гэткі загад быў выдадзены якраз у мамэнце й акурат на такім адрэзку фронту, дзе з увагі на агульнае вядзеньне вайны трэ' было ўнікнуць адступленьня, то гэта даказвае адначасна, што бальшавіцкія рэзэрвы людзей і матарыялу ўжо вычарпаліся. Якраз гэтая вера ў нявычарпаную крыніцу людзкое й матарыяльнае баявое сілы спрычынілася да таго, што пры кожным паражэньні ўсё-ж яна магла быць настолькі вялікай, каб усё-ж такі даваць надзеі нашым ворагам на перамогу.

Калі ў мінулую восень пастаўлены з нямецкага боку прагноз аб сіле супраціву саветаў, нажаль, дзякуючы надыходу надзвычай раньняй і цяжкай зімы быў памылковы — як гэта адкрыта сьцьвердзіў Райхсміністар Др. Гёббэльс у тыднёвіку «Райх», — то якраз у зімовай бітве наш вораг найбольш пралічыўся: яна крайне вычарпала яго рэзэрвы ў людзях і матарыяле. Заява Сталіна з 23-га лютага, паводле якой «нямецкія войскі пад магутнымі ўдарамі Чырвонай Арміі адыходзяць назад на захад і надарма робяць высілкі адцягнуць дзень свайго паўнейшага зьнішчэньня», разьбілася аб нашу вайсковую й маральную абарону. Сягоньня гэта яго ўласныя войскі, якія на шырыні 500 км. уцякаюць у бязладзьдзі і прасьледуюцца нашымі зматарызаванымі ўгрупаваньнямі і бязупыннымі атакамі нашага лятунства. Ясная рэч, гэта былі магчымасьці, на якія разьлічалі нашыя ворагі. Магчымасьці з вялікай рызыкай, якія прадстаўляе заўсёды кожная вайна. Яны, аднак, разьбіліся аб сапраўднасьць, якую мы ім супроцьставілі. Гэта былі магчымасьці, якія былі схаваны ў бальшавіцкім ваенным патэнцыянале, у вялікіх рэзэрвах у людзях і матарыяле. Але нашаму ворагу не ўдалося ператварыць іх у сапраўднасьць.

Маскоўскія «Известия» сягоньня прагаварыліся ў гэтым, калі яны скіравалі да аліянтаў роспачлівы кліч аб помачы: «Усе гэтыя часта расхвальваныя жаролы помачы аліянтаў ня маюць ніякай вартасьці, калі яны ня дзеюць хутка, бо магчымасьці — гэта яшчэ далёка не сапраўднасьць»! У мамэнце найцяжэйшых паражэньняў цэнтральны бальшавіцкі орган кладзе палец на балючую рану ваеннага кіраўніцтва аліянтаў. І хоць праўда, што амэрыканская азбройваючая індустрыя, ня гледзячы не нябывалыя й узрастаючыя труднасьці ў сыравіне, працуе навыперадкі, то з другога боку азбройваючая індустрыя дзяржаваў восі, для якіх працуе ўся Эўропа, іх зацьмявае сваімі абрахаванымі загадзя вынікамі. Дапусьцім, што таксама часьць астранамічных цыфраў прадукцыі Рузвэльта існуе ў сапраўднасьці, што ваенная прадукцыя нашых ворагаў сапраўды «сягае да неба», то ўсё-ж магчымасьць ваеннага чыну й ваеннага вырашэньня — гэта яшчэ не сапраўднасьць. Бо ў непараўнальна большай меры чым англя-амэрыканская прадукцыя ў гэтымжа самым часе ўзрасла нястача транспарту й труднасьці танажу.

Тое, што сталася апошнімі днямі ў Паўночным Ледавітым акіяне — затапленьне 32 караблёў, наладованых нязьлічаным ваенным матарыялам, — гэта нятолькі зьнішчэньне азбраеньня цэлае арміі, але адначасова сымптом агульнага ваеннага палажэньня. Якая карысьць з цэлых гораў ваеннага матарыялу, калі яны або чакаюць на адпраўку ў амэрыканскім порце, або даплыўшы ўжо да мэты, ідуць на дно мора! Якая карысьць з часта расхвальваных запасаў сыравіны й людзей Англіі і Амэрыкі, калі яны ня могуць быць ужыты там, дзе яны якраз патрэбны. Аж да афрыканскае катастрофы Чэрчыль стала расхвальваўся сваёй колькаснай перавагай. Ад часу, калі Чэрчыль меў сваю апошнюю прамову ў Ніжняй Палаце, мы ведаем, што ваенны матарыял аліянтаў ня толькі колькасна, але й якасна ўступае матарыялу дзяржаваў восі. І тут аліянты таксама маюць магчымасьць, але ім не ўдалося яе абярнуць у сапраўднасьць.

На гэтай дылемме разьбіваюцца, урэшце, усе ваенныя пляны нашых ворагаў. Разам з фронтам, на шырыні 500 кілямэтраў рухнулі й яго паветраныя замкі, якія яны будавалі, спадзяючыся перамогі. Гэта была магчымасьць, але ні ў якім выпадку сапраўднасьць.

### Гэнэрал-палкоўнік Ліндэман Пераможца з-над Волхава атрымаў павышэньне

**Фюрэр павысіў галоўнакамандуючага арміі, гэнэрала кавалерыі Ліндэмана, у адзначэньне яго заслугаў у пераможным заканчэньні баёў на Волхаве, да званьня гэнэрал-палкоўніка.**



Гэнэрал-палкоўнік ЛІНДЭМАН.



**Салдаты Рычы ў нямецка-італьянскім палоне.**
Ангельцы паддаюцца й ідуць малымі й большымі аддзеламі ў тылавыя лягеры.
ПК. Здымка:

## ВАЙНА

### НА ЎСХОДНІМ ФРОНЦЕ

**У марскім абшары Крыму самалётамі затоплена савецкая падводная лодка. Лятунства бязупынна бамбардавала партовыя ўладжаньні на Каўказскім узьбярэжжы й Азоўскім моры, а таксама Растоў.**

**Шырокім фронтам у звыш 500 км. ідзе нямецкі наступ наперад у паўдзённым напрамку за Дон. Нямецкія й саюзьніцкія войскі ідуць бязупынна наперад, зматарызаваныя ўгрупаваньні й перадавыя часьці пяхоты прасьледуюць адступаючага ў бязладзьдзі ворага. Моцныя злучэньні лятунства атакуюць уцякаючыя калёны ворага, умешваючыся ў наземныя баі. Захоплена дасюль звыш 90.000 палонных, здабыта звыш 1000 танкаў, 1688 гарматаў і нязьлічаная колькасьць ваеннага матарыялу. Паміж фронтам і Харкавам і Курскам, знаходзячыміся ў адлегласьці звыш 300 км., больш няма ніякіх варожых сілаў.**

**Каб аблягчыць палажэньне на паўдзённым адрэзку фронту, бальшавікі прадпрыймалі сільныя атакі на поўнач ад Арла. Бальшавікі кідалі безпасьпяхова моцныя танкавыя сілы. Усе атакі ворага адбіты. Зьнішчана шмат варожых танкаў. На адрэзку толькі аднаго армейскага корпусу зьнішчана за тры дні 75 савецкіх самалётаў. За адзін дзень зьнішчана 289 савецкіх танкаў.**

**Вораг прасьледуецца. Таксама й на поўнач ад Варонежу прадпрыймаліся атакі, якія мелі на мэце адцяжыць паўдзённы фронт. Усе атакі адбіты. Зьнішчана шмат танкаў.**

**У абшары Ржэва ад даўжэйшага часу вялася атака нямецкіх войскаў. На шырокім фронце вораг выкінуты з сваіх пазыцыяў. У тылавым абшары Ржэва замкнёныя варожыя сілы былі зацесьнены й бязупынна атакованы. Іх сіла супраціву зламана. Спробы прарыву паасобных савецкіх групаў асталіся бяз скутку. Распачатая 2 ліпеня абхопліваючая атака ў абшары Ржэва, пасьля прарыву варожае сыстэмы пазыцыяў, прывяла да зьнішчэньня замкнёных шматлікіх стралковых і кавалерыйскіх дывізыяў ворага. У 11-ці дзённым баі захоплена звыш 30.000 палонных, здабыта 218 танкаў, 591 гармата і 1301 кулямёт. Акрамя таго ў нямецкія рукі трапіла нязьлічаная колькасьць**

(працяг на 2-ой бачыне)

